


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

21 лістапада 2003 года

№ 47 (448)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года



## Навіны рэгіёну

### Падманшчыкі

**АШМЯНЫ**. Ліпавыя сацработнікі "засвяціліся" ў вёсках Ашмянскага раёна. У Вялікіх Вайшнарышках незнаёмы вяскоўцам мужчына забраў у старой грошы – 30 долараў ЗША і 50 тысяч беларускіх рублёў. У Шчыпавічах хітры манеўр не ўдаўся. Пакуль бабулька бегала пазычаць грошы да суседзяў, прадстаўнікі "райзабеспячэння " зніклі.

**Марыя МІХАЙЛАВА.**

### Юбілей школы

**МЯДЗЕЛ**. 25-годдзе адзначыла школа ў Купе. У святочным прадстаўленні дзеці паказалі ўсю гісторыю навучальнай установы. Успомнілі і тых педагогаў, што тут працавалі. З нагоды юбілею было і багата падарункаў, галоўнае месца сярод якіх занялі розныя расліны – навучальная ўстанова мае экалагічны накірунак у рабоце.

**Аддзел інфармацыі.**

### Купілі апаратуру

**ВАЛОЖЫН**. Раённы бюджэт выдаткаваў грошы мясцоваму тэрытарыяльна-медыцынскаму аб'яднанню для набыцця апаратуры. Медыкі купілі электракардыяграфічны (ЭКГ) апарат для Вішнеўскай участковай бальніцы коштам каля 2 мільёнаў рублёў. З'явіцца аналагічны і ў Падбярэзскай амбулаторыі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Дагонім Амерыку?

**СМАРГОНЬ**. Па забяспечанасці сельскага насельніцтва комплекснымі прыёмнымі пунктамі (КПП) Смаргонскі раён перакрыў нарматыў сацыяльнага стандарту. Пры патрабаванні мець адзін КПП на 1600 чалавек, у раёне на комплексны прыёмны пункт прыходзіцца 1425 вяскоўцаў.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

### Адшумеў клён

**ВІЛЕЙКА**. На незвычайны пажар выязджалі 18 лістапада Куранецкія пажарныя. На аўтобусным прыпынку, што ў вёсцы Любань, гарэў стары клён. У яго дупло штосьці ўкінулі невядомыя зламыснікі. Сваволства абыйдзецца дорага: сведку 19 стагоддзя, а дрэва расло ў былым панскім парку, давядзецца спілаваць.

**Марына СЛІЖ.**

### Жывуць у памежжы

**АСТРАВЕЦ**. З пачатку года за даведкамі аб месцы жыхарства ў Гудагайскі сельвыканкам звярнулася больш за 200 жыхароў. Гэты дакумент дае права атрымаць ільготную візу ў Літву, якая каштуе 11 долараў. На Астравеччыне такую магчымасць маюць жыхары яшчэ 4 сельсаветаў, якія жывуць у памежжы.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# Талісман на шчасце




На аўтобусным прыпынку ў Маладзечне 19 лістапада каля Палаца культуры. Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Шанец на ўдачу падарыла малым і дарослым «Рэгіянальная газета»

**МАЛАДЗЕЧНА. Сярод маладзечанцаў ходзіць гаворка, што, калі ўбачыш, а лепш праедзеш у аўтобусе, дзе намаляваны бабёр, абавязкова пашанцуе.**

«Нарадзіўся» бабёр сёлетняй вясной у Швецыі. Яго прыдумаў Алег Гулецкі, які раней працаваў дызайнерам у «РГ». Імя жывёліне – Рэгіян – далі ўсім калектывам рэдакцыі. Чаму бабёр? Гэта традыцыйная беларуская звярына, якая будавала свае хаткі на беразе Віліі і Нарачанкі і іншых рэчках нашага рэгіёну. Да таго ж бабёр працалюбівы і вясёлы, як маладзечанцы і віляйчане, валожынцы і мядзельцы, смаргонцы, ашмянцы і астраўчане.



Вадзіцель аўтобуса АляксандрІлькевіч. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Адным з першых убачыў аўтобус з намаляваным бабром Рэгіянам маладзечанец Аляксандр Ломаш. Ён ехаў за рулём свайго аўтамабіля і адразу заруліў у рэдакцыю газеты. З захапленнем Аляксандр расказаў:

— Еду. Гляджу – бабёр. Што за бабёр? Пад'язджаю бліжэй – "рэгіянальны" бабёр. Крута!

"РГ" стала ездзіць на аўтобусе. І тут жа прапанавалі, каб кандуктары, што працуюць ў гэтым аўтобусе, прадавалі "Рэгіяналку".

У сераду "бабёр" ездзіў па шостым маршруце. За рулём быў вопытны вадзіцель АляксандрІлькевіч. За 17 год працоўнага стажу ён добра вывучыў маладзечанскія дарогі. Таму падчас работы адчуваў сябе ўпэўнена і спакойна. Так, адчуваў. Нарэшце, знайшоўся той, хто ўскалыхнуў жыццё. Правільна — гэта бабёр Рэгіян. «У мяне такое пачуццё, — гаворыць Аляксандр, — што я кірую аўтобусам не адзін. А як быццам пад аховай». Спачатку вадзіцель гэтага не заўважаў. Але штосьці змянілася ў рабоце, весялей стала працаваць. Вырашыў, што гэта справа бабра.

Мяркую, кандуктарка, якая ў сераду прадавала білеты ў «пасцёрцы», таксама павесялее і не будзе баяцца называць сваё імя. Бо хутка ёй пашанцуе, у чым дапаможа бабёр Рэгіян. Згодна, работа ў кандуктара складаная. Шмат розных людзей ездзіць у аўтобусе. І зняважыць могуць. Білеты купляць не хочуць. Альбо дадуць 50-тысячную купюру, каб рэшты ў кандуктара не было.

— Ну, а калі няма рэшты, дык я паеду без білета, — кажа пасажыр.

Такое здараецца і ў нашым «бабры». Дарэчы, аўтобус ужо і ламаўся. Рамантуюць яго ў аўтапарку хутка. Можа, і праўда, ён удачу нясе. «Ходзіць» Рэгіян у цэнтры горада, па самых шматлюдных маршрутах. Напрыклад, па шостым, дзесятым, адзінаццатым... Магчыма, заўтра пашанцуе і вам.

**Ірына РАБУШКА.**

### Пачаць курыць лёгка



Большасць сённяшніх курцоў пакаштавала цыгарэту ў падлеткавым узросце, у чым яны прызналіся падчас апытання.

3-я старонка

### Ідзе чарговы прызыў



Сёлетняя прызыўная кампанія пачынаецца ва ўмовах дзеяння новага Закона "Аб усеагульным ваенным абавязку".

5-я старонка

### Лебедзеўскія матывы



На карце Маладзечанскага раёна сотні населеных пунктаў. Адзін з іх – вёска Лебедзева.

7-я старонка

■ ГУЛЬНЯ

# Маладзечанскія ўсёзнайкі

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак у цэнтры мастацкай творчасці навучэнцаў (ЦМТН) прайшоў фінальны тур інтэлектуальнай гульні "Эрудыт-лато "Усёзнайкі".**

7 каманд старшакласнікаў з гарадскіх школ змагаліся за першае месца. У перадфінальнай гульні, якую прысвяцілі творчасці Васіля Быкава, лідзіравала каманда са школы №9. Юныя эрудыты правільна адказалі на 16 пытанняў з 18. На адзін адказ менш ведалі школьнікі з СШ №2. За імі ішла СШ №6.

Не ўсе добра ведалі знакаміты твор Васіля Быкава "Знак бяды". На пытанне, дзе жылі галоўныя героі аповесці Багацькі, адказвалі Ярашчына, Яцкава, Ялісава. На самой справе – гэта Яхімоўшчына. З прозвішчам актрысы, якая іграла ролю Сцепаніды ў кінастужцы "Знак бяды", таксама былі складанасці. Называлі Станюту, Васільеву і нават маладзечанскую актрысу Стэльмах замест Ніны Русланавай.

У фінальнай гульні, тэму якой прысвяцілі Вялікай Айчыннай вайне ў творчасці беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, лідэры змяніліся. Пытанняў было столькі ж – 18. На кожнае 4 варыянты адказаў. Каб выбраць правільны, адвалі 30 секунд. Нарэшце, пераможцамі сталі гульцы з СШ №8.

— Чаму вам удалося перамагчы? — пытаюся ў старшакласнікаў.

— Настаўнікі добрыя.

— Тут вы ўжо атрымалі прызы. Напэўна, і ў роднай школе адзначаць вашу перамогу.

— Па беларускай літаратуры "дзесяткі" атрымаем. Хацелася б яшчэ і па мове, — у адзін голас адказалі школьнікі.

Другое месца падзялілі каманды з СШ №№2 і 9.

— Чаго не хапіла да перамогі, — цікаўлюся ў гульцоў з СШ №2.

— Дрэнна былі дасведчаныя ў заданнях на фінальную гульню.

Але, як патлумачыла адна з арганізатараў гульні загадчыца аддзела выстаў і масавых мерапрыемстваў ЦМТН Ала Аношка, дзецям далі толькі асноўных аўтараў і прапанавалі рыхтавацца самастойна па творчасці іншых паэтаў і пісьменнікаў, якія пісалі аб вайне.

Трэцюю прыступку занялі старшакласнікі з СШ №14.

Школьнікаў узнагародзілі сувенірамі, цацкамі і салодкімі падарункамі.

Ірына РАБУШКА.



Удзельнікі інтэлектуальнай гульні "Эрудыт-лато "Усёзнайкі". Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# «Мовай сэрцаў»

**ВАЛОЖЫН. На вечарыну з нагоды юбілейнай даты ў жыцці валожынскай паэтэсы, члена Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь Валянціны Гіруць-Русакевіч сабраліся прыхільнікі яе таленту ў зале раённага цэнтра культуры.**

"Мовай сэрцаў" – такую назву далі культработнікі гэтаму святочнаму мерапрыемству. І трэба зазначыць, што на працягу некалькіх гадзін паэтка размаўляла мовай свайго сэрца з прысутнымі, сярод якіх не было людзей абыякавых, пабочных, а толькі тыя, хто добра ведае гэту неардынарную жанчыну, хто любіць і цэніць яе як чалавека і творчую асобу. Не абмінула ўвагай такую падзею і кіраўніцтва раёна: найвышэйшую ўзнагароду – Ганаровую грамату раённага выканаўчага камітэта — уручыў старшыня райсавета дэпутатаў Сяргей Маляўскі. Адным з першых ён адрасаваў і ўласныя віншавальныя паэтычныя радкі. А вось загадчык аддзела культуры райвыканкама Сяргей Шаблыка да сваіх слоў далучыў яшчэ і верш, які напярэдадні атрымаў па факсу. Юбілярцы было прапанавана здагадацца, каму належаць лірычныя радкі. Праўда, доўга яна не вагалася, адразу пазнала "почырк" свайго аднакурсніка, а цяпер уласнага карэспандэнта "Народнай газеты" па Магілёўскай вобласці Віктара Кубекі.

Юбілей – гэта не звычайны дзень нараджэння, а дата, калі хочацца падвесці своеасаблівыя вынікі ў жыцці, творчасці, асэнсаваць сваё прызначэнне ў гэтым свеце. Валянціна Францаўна многае паспела: убачылі свет два паэтычныя зборнікі, падрыхтаваны рукапіс трэцяга, на яе словы напісана шмат песень. Толькі ў садружнасці з прафесійным кампазітарам Уладзімірам Гаркушам – дзевяць. Вершы В.Гіруць-Русакевіч натхняюць і самадзейных кампазітараў. Сярод іх — кіраўнік дзіцячай эстраднай студыі "Праменьчыкі" Наталля Гаўрыс, якая разам са сваімі выхаванцамі і салісткай РЦК Ірынай Зінько падарыла гераіні вечарыны некалькі песень на яе творы.

...Ніколі не забываецца Валянціна пра свае вытокі. Вершы, дзе ўспамінаецца родная Міхайлоўшчына на Ашмяншчыне, найболыш пранікнёна-шчымлівыя. Менавіта адтуль вядзецца яе дружба з Нінай Дземідзюк, якая спецыяльна прыехала з Маладзечна, каб павіншаваць сяброўку дзяцінства.

Са шчаслівых гадоў студэнцкага юнацтва таксама засталіся верныя сябры. На вечарыну завіталі аднакурсніцы Алена Швайко і Яўгенія Арцюшкевіч, якія цяпер працуюць на беларускім радыё, а памятаюць Валянціну танклявай дзяўчынай з доўгімі косамі. Дарэчы, гэтыя адметныя цяжкія косы, у якіх аднойчы і на ўсё жыццё заблытаўся лоскі юнак Рыгор Русакевіч. А калярытныя вяснушкі таксама ўспамінаў і былы намеснік рэдактара раённай газеты "Працоўная слава" Сямен Штэйнер. Значная старонка ў працоўнай біяграфіі паэтэсы звязана менавіта з гэтай газетай, дзе пачынала працаваць пасля заканчэння факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Было што ўспомніць і былому рэдактару Софіі Кавязе, на вачах якой дужаў паэтычны талент падапечнай. На пасяджэннях літаратурнага аб'яднання "Рунь" пры раённай газеце шмат гадоў таму пазнаёмілася Валянціна Русакевіч з Віктарам Шніпам, на той час яшчэ нікому невядомым, пачынаючым паэтам. Сёння ён – галоўны рэдактар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", і прыехаў у Валожын, каб асабіста павіншаваць паэтку.

Муза – непрадказальная асоба, яна наведваецца да паэтаў у любы час сутак, застае за рознымі занятакмі. І вельмі важна, асабліва жанчыне – жонцы, маці, бабулі і гаспадыні, каб цябе разумелі родныя. Такі надзейны тыл у нашай гераіні ёсць. З прыгожымі бардовымі ружамі падняліся на сцэну сыны Сяргей і Павел са сваімі жонкамі. Для самой жа Валянціны яны не нявесткі, а чаканыя дачушкі.

Каля трыццаці гадоў жыве Валянціна Русакевіч у Валожыне, які неаднаразова апела ў сваіх вершах, моцныя трывалыя карані пусціла тут і сваёй творчасцю ўзбагаціла і ўпрыгожыла палітру валожыншчыны.

Наталля ШТЭЙНЕР.

## «Оскар» ад чытача

**Рэдакцыя пры падвядзенні вынікаў работы за мінулы год вызначыць пераможцаў у наступных васьмі намінацыях:**

Лепшая першая паласа
Лепшы аўтар-карэспандэнт
Лепшае фота
Навіна года
Чалавек года
Конкурс, гульня года
Падзея, мерапрыемства года
Спартсмен года

**Просім вас, паважаныя чытачы, дапамагчы зрабіць нам гэты выбар. Свае прапановы дасылайце на паштовы і электронны адрасы рэдакцыі. Дасылайце свае меркаванні да 21 снежня.**

■ ПАДПІСКА 2004

# Падпішыся і выйграй

**Вечар для дваіх пры свечках у маладзечанскім кафэ "Блюз", аўтамабільны акумулятар "Зубр", тваё мастацкае фота ў майстэрні Яўгена Стэльмаха, кафейны сервіз і іншыя прызы разыгрываюцца сярод падпісчыкаў на "Рэгіянальную газету" на першае паўгоддзе 2004 года. Падпішыся і выйграй прыз ад "Рэгіянальнай газеты"!**


Галоўны прыз для падпісчыкаў – рамантычны вечар на дваіх у маладзечанскім кафэ «Блюз». Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

### Умовы розыгрышу

У розыгрышы прызоў удзельнічаюць падпісчыкі, якія даслалі на адрас рэдакцыі ксеракопіі або арыгіналы падпісных абанементаў на 1-ы квартал або 1-е паўгоддзе 2004 года на "Рэгіянальную газету" (у апошніх права двух галасоў).

Ксеракопіі або арыгіналы падпісных абанементаў на 1-ы квартал або 1-е паўгоддзе 2004 года прымаюцца да ўдзелу ў розыгрышы да 30 снежня уключна.

Розыгрыш прызоў адбудзецца на другі тыдзень студзеня з удзелам чытачоў, работнікаў рэдакцыі, аўтарскага актыву. Вынікі розыгрышу апублікуе "Рэгіянальная газета".

Прызы будуць выдавацца па прад'яўленні арыгінала падпіснога абанемента, калі ў рэдакцыю была пададзена копія падпіснога абанемента.

Найбольш актыўныя жыхары рэгіёну ўжо паспелі даслаць ксеракопіі падпісных абанементаў на адрас рэдакцыі. Далучайцеся да іх, і ў вас таксама з'явіцца шанс атрымаць прыз ад "Рэгіянальнай газеты". Апошні дзень падпіскі на выданне – 25 снежня. Будзьце ў нашай кампаніі!

**Індэкс індывідуальнай падпіскі 63212, кошт на месяц 2460 руб.**

**Індэкс ведамаснай падпіскі 63369, кошт на месяц 7380 руб.**

**Падпіска прымаецца ва ўсіх аддзяленнях сувязі і паштальёнамі.**

**Даведкі па тэлефонах**
**Маладзечна 7-05-73,**
**Вілейка 5-64-68,**
**Валожын 5-54-57,**
**Мядзел 5-47-52,**
**Смаргонь 2-14-65,**
**Ашмяны 2-03-99,**
**Астравец 2-17-58.**

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Пачаць курыць лёгка...

**Абсалютная большасць 16–гадовых юнакоў і дзяўчат спрабавала курыць. Такія вынікі анкетавання, якое правяла напярэдадні дня адмаўлення ад курэння сацыяльна-псіхалагічная служба Вілейскага ПТВ–200.**

Усяго адказала на анкету 49 навучэнцаў: 26 дзяўчынак і 23 юнакі. 22 дзяўчынкі і 17 юнакоў спрабавалі курыць. З іх 3 ва ўзросце да 10 гадоў, 5 – з 10 да 12 гадоў, 7 – з 12 да 13, астатнія – у 14-16 гадоў. 14 юнакоў і 3 дзяўчынкі кураць рэгулярна. 4 падлеткі выкурваюць 5 цыгарэт, 6 – да 10, 5 – да 20 і 2 – больш за 20 у дзень. Шасці юнакам грошы на цыгарэты даюць бацькі, астатнія эканомяць на ядзе. Усе добра ведаюць аб шкодзе курэння. І амаль усе спрабавалі кінуць курыць!



Большасць сённяшніх курцоў пакаштавала цыгарэту ў падлеткавым узросце. Гэта пацвердзілі вынікі анкетавання, якое правяла сацыяльна-псіхалагічная служба Вілейскага ПТВ-200. Фота ByMedia.Net

Калі ўзяць у сярэднім, што ў групе кураць 8 чалавек па 10 цыгарэт, атрымліваецца, што толькі ў нашым вучылішчы за дзень 100000 рублёў знікаюць з дымам, а толькі ў Мінскай вобласці 30 вучылішчаў і ёсць яшчэ школы. Але грошы нішто ў параўнанні са здароўем падлеткаў. І хоць ва ўстановах адукацыі вядзецца работа па барацьбе з курэннем, сёння яна прайграе рэкламным кампаніям тытунёвых фірмаў. На маю думку, патрэбна змагацца з курэннем на дзяржаўным узроўні. Напрыклад, прыняць закон, які б абавязваў з кожным пачкам цыгарэт даваць ілюстраваную лістоўку з прыкладамі хвароб, якія ўзнікаюць у выніку курэння: рак вуснаў, горла, лёгкіх і г. д. Тытунь – гэта зло, і падлеткі павінны баяцца яго.

Выпадак з жыцця. Іду на працу каля калгаснага рынку, падбягае да мяне падлетак, дае грошы і просіць купіць яму цыгарэт. Бяру грошы і купляю "Ментанс" (облегчает понимание). На самой справе адразу гэтага разумення паміж намі не было зусім. Прыйшлося прачытаць яму лекцыю з элементамі фантасмагарычных прыкладаў аб шкодзе курэння. Расказаў яму, як будуць па кавалачках адразаць вусны, пашкоджаныя ракам. Пасля гэтых прыкладаў падлетак сказаў, што кіне курыць. У мяне з падлеткам, спадзяюся, атрымалася. Чаму не павінна атрымацца ў дзяржавы?



**Адкрыты ўрок вядзе**
**Ігар КІЦІКАЎ,**
**kitikoff@tut.by.**

### У якім узросце паспрабавалі закурыць

**Па выніках апытання, праведзенага сёлета ў Вілейскім ПТВ-200 сацыяльна-псіхалагічнай службай гэтай вучэльні.**




## Ашмянскі «Кірмаш»

**Не палохае зіма ашмянскіх прадпрымальнікаў. Напрыканцы мінулага тыдня ў цэнтры горада адчыніў дзверы "Кірмаш" – рынак пад дахам для продажу прадуктаў. Пад яго адвялі будынак былой сталоўкі, які страціў сваё першапачатковае прызначэнне і знешнім выглядам толькі псаваў абноўленую плошчу.**

Восем мясцовых прадпрымальнікаў, скааперыраваўшы ўласныя сродкі, у жніўні ўзяліся за справу. Зараз над уваходам абноўленага будынка здалёк бачна шыльда – "Кірмаш".

Адкрыццё было шумным і шматлюдным. Кожнаму хацелася паглядзець, а можа, і паспрабаваць, чым здзівяць гандляры. Калі чырвоная стужка была перарэзаная, ашмянцы пабачылі аздобленую белым пластыкам залу, сучасныя вітрыны і халадзільнае абсталяванне. Выбраць прадукты мог кожны, па свайму густу і кашальку — кілбасы і мяса, гародніну, садавіну, бакалею, цукеркі і ласункі. Няма толькі хлеба і моцных напояў – дазволу ад мясцовых уладаў на гандаль імі на міні –рынку прадпрымальнікі не атрымалі.

Гэта ўжо другі крыты мінірынак у Ашмянах. Палаткі з прамысловымі таварамі раней размясціліся ў Доме быту.

**Наталля ВАЛЫНЕЦ.**

■ ПОСТ ДАІ

## Не берагуць свайго жыцця

**Толькі патрульна–пастаовой службай Маладзечна за апошнія выхадныя было затрымана 13 чалавек, якія парушылі Правілы дарожнага руху.**

У сувязі са зьмяненнем надвор'я (туман, галалёд) у гэты час павялічваецца колькасць дарожна–транспартных здарэнняў. 14 лістапада на тэрыторыі Мінскай вобласці было здзейснена 6 дарожна–транспартных здарэнняў. 4 чалавекі загінулі, 3 атрымалі раненні. І хаця гэтыя здарэнні абмінулі Маладзечна, дысцыпліна ў самым буйным горадзе рэгіёну на дарогах не лепшая.

Каб папярэдзіць дарожна-транспартныя здарэнні з удзелам пешаходаў, у Мінскай вобласці ў выхадныя 22–23 і 29–30 лістапада з 15.00 да 23.00 праводзіцца комплекс прафілактычных мерапрыемстваў "Пешаход".

**Для даведкі.**
**За 2002 год на тэрыторыі Маладзечна і раёна ў 136 дарожна–транспартных здарэннях загінулі 34 чалавекі, параненыя – 126. 53 здарэнні адбыліся з удзелам пешаходаў. 31 па іх віне.**



Не размінуўся з дрэвам вадзіцель гэтага легкавіка ў лістападаўскія выхадныя на вуліцы Чырвонаармейскай ў Вілейцы. Фота Яўгенії МАНЦЭВІЧ.

**Сёлета адбылося 91 ДТЗ, 23 чалавекі загінулі, параненыя – 100.**

Да спіса трагедый на дарозе дадалася яшчэ адна. 15 лістапада ў 5.30 раніцы жыхар вёскі Яхімоўшчына Павел В., кіруючы ў вёсцы Цюрлі аўтамабілем "ВАЗ–2103", на пад'ездзе да фермы калгаса "Маладзечанскі" не справіўся з кіраваннем і наехаў на прыдарожнае дрэва. У выніку пасажыр, навучэнец Вілейскага тэхнікума бізнесу і права, 1983 года, В.Я., ад атрыманых траўмаў памёр у гарадской бальніцы. У вадзіцеля ўзятая кроў на аналіз. Крымінальна–следчы камітэт па Маладзечанскім раёне ўзбудзіў крымінальную справу.

**Уладзімір ЛУКАШЫК, інспектар ДАІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 13.11 руб. | 20.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2134,00 | 2136,00 |
| Еўра | 2471,17 | 2550,92 |
| Злоты | 538,96 | 552,39 |
| Літ | 715,51 | 738,87 |
| Расійскі рубель | 71,59 | 71,68 |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 2135/2160 | 2140/2160 |

Маладзечна
## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 12.11 | 19.11 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13600 | 13600 |
| Сасіскі, 1 кг | 4600 | 4600 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 0,9 кг | 850 | 900 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1450 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2100 |
| Маянэз, 200 г | 470 | 490 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 850 | 900 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 850 | 850 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 820 | 780 |
| Капуста, 1 кг | 170 | 160 |
| Морква, 1 кг | 250 | 300 |
| Лімоны, 1 кг | 2400 | 2750 |
| Апельсіны, 1 кг | 1950 | 1950 |
| Яблыкі, 1 кг | 1150 | 1150 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 800 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2100 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4900 | 4900 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1700 |
| Бульба, 1 вядро | 2000 | 2300 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1200 |

БАРЫС КІТ
Запіс Васіля БЫКАВА

# Цярновы шлях

**"Рэгіянальная газета" працягвае друкаваць успаміны аднаго з самых вядомых беларусаў XX стагоддзя Барыса Кіта, запісаныя Васілём Быкавым улетку 2001 года ў Франкфурце-на-Майне. Поўны іх тэкст шукайце на сайце газеты па адрасе regionnews.promedia.by.**

У чэрвені 44 года Астроўскі і БЦР яшчэ паслалі склікаць Другі Усебеларускі кангрэс у Менску. Трэба сказаць, што гэта быў чыста беларускі, надзвычай прадстаўнічы зьезд. Рэч у тым, што нашы беларускія патрыёты не працавалі для немцаў, яны працавалі для Беларусі, усе гэтыя настаўнікі, дырэктары. Я таксама прыехаў у ліку дэлегатаў з Маладэчна. У Менску найперш забег у школьны аддзел генеральнага камісарыяту, дзе даведаўся сумную вестку пра мае справы. На той час я быў дырэктарам Адміністрацыйна-гандлёвай школы ў Маладэчне і хацеў стварыць вышэйшую школу. Нам загадалі прыслаць у Менск праграмы тае школы. Дык аказалася, што мая праграма нарабіла пярэпалах у камісарыяце, мяне абвінавацілі, што я заснаваў ня школу, а цэлы універсітэт. Начальнік пачаў біць кулакамі па стале і крычаць. Там жа мне паведамілі, што мая школа зачыняецца. Я нікому нічога не сказаў, вярнуўся са зьезду, скончыў навучальны год. Раздаў вучням прыгожыя дыплёмы.


**Кастусь Харашэвіч. Вучань гандлёвай школы ў Маладзечне, арганізаванай Барысам Кітом падчас другой сусветнай вайны. Сябар Саюза Беларускай моладзі. Цяпер жыве ў Маладзечне. Член Саюза мастакоў Беларусі. Публікаваў свае ўспаміны і публіцыстычныя артыкулы ў «Рэгіянальнай газеце».**
Фота з архіва «РГ».

На кангрэс зьехалася нешта каля 1300 дэлегатаў, самая эліта Заходняй і Усходняй Беларусі. Панаваў вялікі энтузіязм, выступала шмат выдатных людзей. І не толькі Астроўскі, але і ксёндз **Адам Станкевіч**, **Шкялёнак**, **Хвёдар Ілляшэвіч**, якія прыехаў з Беластоку, ды іншыя. Немцы ставіліся да таго абыякава, ім ужо было не да беларускіх справаў. Я заўважыў на бальконе опернага тэатру толькі двух немцаў. Вёў кангрэс **Яўхім Кіпель**. Было аднагалосна вырашана прадаўжаць агульнабеларускую справу, запачаткаваную у 18 годзе БНР. Але было сумна, бо ўжо трэба было складаць манаткі і ўцякаць ад Смерша, які жорстка распраўляўся з людзьмі — калябарантамі ці не калябарантамі, абы хто меў што–небудзь супольнае зь немцамі. Хапалі і высылалі ў Сібір. Вельмі шмат і маіх вучняў, і маіх вучыцеляў адпакутвалі на Сібіры. І я таксама там апынуўся б, калі б застаўся у Беларусі. Калі я у 93 годзе прыехаў у Маладэчна, дзе мне мэрам гораду **Генадзем Карпенкам** і ягоным заступнікам **Віктарам Ганчаром** было арганізавана спатканьне, дык аказалася, што палова маіх вучняў прайшла праз Сібір. Але завошта? Толькі затое, што яны вучыліся ў маёй школе. Тое было і радасна і сумна. Яшчэ на маім спатканьні сядзелі і **Ермаловіч і Каханоўскі**, якіх ужо няма. А імпрэзу вёў адзін з маіх выдатных вучняў, акадэмік, прафэсар **Пётра Кузюковіч**, вядомы медычны дзеяч Беларусі. Выступалі, можа, 30 ці 40 чалавек. Пасьля 94 года, як зьмянілася сытуацыя на Беларусі, туды я болей ня езьдзіў.

На эвакуацыю я выехаў зь Лебедзева, дзе жыў у бацькоў маёй жонкі. Прозьвішча яе бацькі было знакамітае ў Беларусі — **Корсак**. Ён быў патрыётам беларушчыны, а як прыйшлі саветы, дык яго заарыштавалі, і ён восем год прабыў у Сібіры, адкуль вярнуўся хворым і хутка памёр. Ехалі да Вільні на сялянскай фурманцы. Адтуль да Варшавы - на цягніку. Тое было нялёгка, бо я ня быў сябрам БЦР, ня меў адпаведных дакумантаў, якіх увесь час патрабавалі ўлады. У Варшаве першым чынам пайшоў у Беларускі камітэт пад кіраўніцтвам доктара **Мікалая Шчорса**, майго універсітэцкага сябра. Ён быў вельмі здатны чалавек, патрыёт, паходзіў з Новага Сьвержаня каля Шчорсаў, дзе была рэзідэнцыя графа Храптовіча з вядомай бібліятэкай, у якой працаваў яшчэ Адам Міцкевіч. Скончыўшы медыцыну ў Віленскім універсітэце, заўсёды браў актыўны ўдзел у беларускай палітыцы і ўсім імпанаваў сваім інтэлектам. Ён быў найлепшы кандыдат на прэзідэнцкую пасаду ў Беларусі. Але з нагоды непрымальнай палітыкі немцаў Шчорс хутка адмовіўся ад гіпатэтычнага прэзідэнцтва.

**Працяг будзе.**

■ **НАША ПОШТА**

## Ліст з Internetа

Прывітанне, «Рэгіянальная газета». Хачу выказаць Вам падзяку за артыкулы «Цярновы шлях» і «Жупраны Мацея Бурачка». Вельмі цікава й пазнавальна чытаць факты аб нашай радзіме, аб яе таленавітых сынах. Калі ласка, і надалей працягвайце працу ў гэтым накірунку. Вельмі прыемна адчуваць, што наша гісторыя й культура цікавяць беларусаў, што ёсць людзі, якія займаюцца гэтай справай. Пакуль.

**Ігар. Ihar-Bel@tut.by**

**Вілейская зямля славіцца таленавітымі людзьмі. Дастаткова прыгадаць ураджэнцаў вёскі Цынцавічы: мастака Нікадзіма Сіліванoвіча, які прымаў удзел у аздабленні мазаікай Сафійскага сабора ў Пецярбурзе, рэктара Беларускай акадэміі музыкі Міхаіла Казінца. Можа, гэта проста супадзенне, але ж з гэтай вёскі і Аляксандр Высоцкі.**

# Спявае Высоцкі

28 лістапада ў Вілейскім Доме культуры адбудзецца творчы вечар паэта, кампазітара і спевака Аляксандра Высоцкага, ураджэнца вёскі Цынцавічы

**ВІЛЕЙКА. У гутарцы з карэспандэнтам Аляксандр пагаджаецца, што творчы вечар – гэта падвядзенне нейкіх прамежкавых вынікаў яго творчага жыцця:**

— Так, ёсць ужо і вынікі, наогул, усё маё жыццё гэта творчы пошук. З дзяцінства пісаў вершы.

Калі Аляксандр яшчэ вучыўся ў Вілейскім ПТВ-200, стварыў свой першы ВІА «Люба» – Цынцавічы знаходзяцца побач з вядомай на Вілейшчыне вёскай Любань – І.К.). Потым, калі служыў у арміі, спяваў у ваенным ВІА. Пасля арміі вучыўся ў Мінскім культасветвучылішчы. Атрымаў спецыяльнасць "харавы дырыжор". Працаваў у роднай вёсцы дырэктарам клуба. З 1990 года вучыць дзяцей спяваць у ПТВ-200.

Да свята 400–годдзя Вілейкі на словы мясцовых паэтаў самадзейны кампазітар напісаў чатыры песні: «Мой горад», «Я в Вилейке живу», «Город над Вилией», «Песня моего сердца». Цяпер гэтыя песні сталі любімымі ў гараджан. У 2000 годзе напісаў музыку на верш «Край верасовы» члена Саюза пісьменнікаў вілейчаніна Івана Лашуткі. Песню паслалі на радыё. Пасля аранжыроўкі, якую зрабіў заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Ткачэнка, песню спеў Сяргей Герасімаў, саліст «Сяброў». «Край верасовы» трапіў у дзесятку лепшых песень года. На першым з'ездзе Беларусаў свету песню выкарысталі як гімн. Гэта ж песня ў выкананні Казіміра Таўстыкі заняла на рэгіянальным конкурсе «Адна зямля» ў 2002 годзе першае месца.

— Такім чынам ёсць і поспехі, – кажа Аляксандр, – але ж яшчэ многае трэба зрабіць. На сваім творчым шляху я сустракаў многа таленавітых і добрых людзей, якія дапамагалі мне, а цяпер надыходзіць мой час дапамагаць другім.



**Афіша творчага вечара Аляксандра Высоцкага (у цэнтры першага рада). На сваім творчым вечары вілейскі самадзейны кампазітар і выканаўца Аляксандр Высоцкі выступіць разам са сваімі сябрамі.**

**Ігар КІЦІКАЎ.**

■ **ЗНАЁМЦЕСЯ – КІЯСКЁР**

## Кіёск – сям'і не перашкода

**МАЛАДЗЕЧНА. Жанну Трачум у сям'ю маладзечанскіх кіяскёраў прынялі тры месяцы таму. Да гэтага часу яна таксама працавала ў шапіку, толькі ў прыватнага прадпрымальніка.**

Памяняць месца працы прымусілі сямейныя абставіны. Падрос сын Мікіта, які ў наступным годзе ўжо пойдзе ў школу, і мама захацела аддаваць больш часу дзіцяці.

Работа ў кіёску, што размешчаны каля магазіна "Дзіцячы свет", гэтаму спрыяе. Рабочы дзень у Жанны пачынаецца ў 9 гадзін раніцы, а заканчваецца ў 18 вечара, з двухгадзінным перапынкам на абед. Жыве жанчына недалёка, таму за гэты час спраўляецца перарабіць палову хатніх спраў, а вечар прысвячае сыну. Мікіта ўжо ведае ўсе літары, умее чытаць па складах. Разам любяць глядзець мультфільмы, разглядаць старонкі спецыяльных дзіцячых кніжак. А вось да рознага кшталту "прыставак", якімі трызняць дзеці, Жанна адносіцца з асцярожнасцю.


**Жанна Трачум працуе ў кіёску №8, што каля магазіна "Дзіцячы свет".**
Фота Марыны СЛІЖ.

У новую прафесію ўжылася яна хутка. Кіяскёр – той жа прадавец, толькі спецыфічнага тавару – газет і часопісаў.

Як і ў кожнага кіяскёра, у яе ёсць планы на месяц. Справіцца з імі не так ўжо і проста. Шапік, які стаяў раней на аўтобусным прыпынку, змясцілі бліжэй да дамоў, і пакупнікоў стала менш. Тым жа, хто заглядвае ў кіёск, Жанна Трачум можа прапанаваць не толькі перыядычныя выданні, але і іншы тавар. Маецца вялікі выбар парфумерных і мыйных сродкаў, тавараў для школьнікаў. Дарэчы, усе гэтыя рознакаляровыя скрыначкі і бутэлечкі, як і газеты, часопісы, кіяскёр штовечар вымушана здымаць з вітрын, а раніцай раскладваць зноў. Жанна кажа, што не цяжка. Наадварот, кожны дзень ёсць магчымасць праявіць фантазію і паспрабаваць сябе ў "дызайнерскай" справе.

**Марына СЛІЖ**

■ **ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

## Дзень ліцэіста

**Дзень ліцэіста адзначылі нядаўна 10-11-класнікі сярэдняй школы № 7.**

Спецыяльна да гэтай падзеі настаўнікі і вучні падрыхтавалі невялікія гумарыстычныя сцэнкі. А апагеем свята стала ўручэнне ліцэісцкіх пасведчанняў вучням 10-х класаў.

**Яўген САВІЦКІ.**

## Уздоўж Віліі

**МАЛАДЗЕЧНА. 7-8 лістапада ўдзельнікі гуртка "Эдэльвейс", што працуе ў школе №7, правялі ў паходзе.**

За два дні група ў складзе 14 чалавек, разам з настаўніцай англійскай мовы Ірынай Уладзіміраўнай Шаврнёвай, прайшла вялікі шлях. Пачынаўся ён са станцыі Засковічы, да якой даставіў турыстаў цягнік. Далей рушылі да рэчкі Вілія і пайшлі ўздоўж яе. Дабраўшыся да турбазы "Плёсы", сталі лагерам. А на наступны дзень праз палі накіраваліся ў Маладзечна.

Удзельнікі паходу вельмі стаміліся – прайшлі 50 кіламетраў, і ў той жа час напераборвай дзяліліся ўражаннямі, якія для многіх стануць незабыўнымі.

**Яўген САВІЦКІ.**

 



## Загад

**Ваеннага камісара Маладзечна і Маладзечанскага раёна № 167**

29 кастрычніка 2003 года, г.Маладзечна

## Аб прызыве грамадзян на тэрміновую ваенную службу

§1

На падставе Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, №458 ад 17 кастрычніка 2003 года, на тэрыторыі г.Маладзечна і Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці ў лістападзе-снежні 2003 года, студзені 2004 года праводзіцца прызыў грамадзян на тэрміновую ваенную службу.

§2

Яўцы на прызыўны ўчастак г. Маладзечна і Маладзечанскага раёна для прызыву на ваенную службу падлягаюць грамадзяне 1985 года нараджэння і грамадзяне 1986 года нараджэння, якім да дня прызыву споўнілася 18 гадоў, а таксама грамадзяне, якія нарадзіліся ў 1984–1977 г.г., у якіх сышлі адтэрміноўкі ад прызываў або не прызваных раней на ваенную службу па розных прычынах.

§3

Усе грамадзяне, якія падлягаюць прызыву на тэрміновую ваенную службу, абавязаны прыбыць на прызыўны ўчастак па адрасе: вул. Гарадоцкая, 4, дакладна ў прызначаныя дні і гадзіны, з дакументамі, указанымі ў павестцы. Грамадзяне, якія не атрымалі павестак аб яўцы для прызыву на тэрміновую ваенную службу, абавязаны прыбыць у ваенны камісарыят у месячны тэрмін пасля аб'яўлення Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, №458 ад 17 кастрычніка 2003 года "Аб звальненні ў запас ваеннаслужачых тэрміновай ваеннай службы, якія выслужылі ўстаноўленыя тэрміны ваеннай службы, і аб чарговым прызыве грамадзян на тэрміновую ваенную службу ў лістападзе–снежні 2003 года і студзені 2004 года, маючы з сабой дакументы, якія сведчаць асобу.

§4

Усе асобы прызыўнога ўзросту, якія падлягаюць прызыву на ваенную службу і часова прыбылі на тэрыторыі г.Маладзечна і Маладзечанскага раёна, абавязаны неадкладна вярнуцца да месца пастаяннага жыхарства і з'явіцца ў ваенны камісарыят, у якім стаялі на ўліку, для праходжання прызыўной камісіі.

§5

Медыцынскі агляд грамадзян, якія падлягаюць прызыву на тэрміновую ваенную службу, пачаць у кастрычніку 2003 года.

**Ваенны камісар Маладзечанскага аб'яднанага гарадскога ваеннага камісарыята палкоўнік А.Б.Жураўскі.**

**Аналагічныя загады выдадзеныя ваеннымі камісарамі ва ўсіх раёнах нашага рэгіёну.**

### Адрасы і тэлефоны ваенных камісарыятаў

(дзяжурны, начальнік аддзялення прызыву)

**Астравец** (вул. Зялёная, 1) **тэл. 2 16 61, 2 15 61.**

**Ашмяны** (зав. Бальнічны, 12) **тэл. 2 25 15, 2 23 15.**

**Валожын** (пл. Свабоды, 4) **тэл. 5 53 51, 5 54 37.**

**Вілейка** (вул. Маркава, 49) **тэл. 5 43 41, 5 32 95.**

**Маладзечна** (вул. Гарадоцкая, 4) **тэл. 7 07 59, 7 61 02.**

**Мядзел** (вул. Крупскай, 11) **тэл. 5 57 54, 5 50 37.**

**Смаргонь** (вул. Танкістаў, 3) **тэл. 3 21 16, 3 23 15.**



Прызыўнікі знаёмяцца са сваімі асабовымі справамі перад праходжаннем медыцынскага агляду. Фота ByMedia.Net

# Прызыў па-новаму

**Сёлетняя прызыўная кампанія пачынаецца ва ўмовах дзеяння новага Закона "Аб усеагульным ваенным абавязку". Гэта акалічнасць, на думку ваеннага камісара Маладзечна і Маладзечанскага раёна Аляксандра Жураўскага, можа істотна паўплываць і на ход кампаніі, і на адносіны да службы навабранцаў.**

— Ніводная кампанія, – гаворыць ваенком,– не была настолькі адкрытай, наколькі адкрытай мы стараемся яе зрабіць для прызыўнікоў, іх бацькоў. Таму мы хочам знайсці кантакт з бацькамі, грамадскасцю.

Згодна з новым законам, у рабоце прызыўной камісіі могуць удзельнічаць дэпутаты, прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў і іншых арганізацый. Як запэўнівае палкоўнік Жураўскі, ваенкамат зацікаўлены ў адкрытасці працэсу прызыву. І калі ў рабоце камісіі з'явяць жаданне ўдзельнічаць прадстаўнікі, скажам, навучальных устаноў, школ, адкуль ідуць у армію будучыя воіны, ім будзе дадзеная гэтая магчымасць.

На пытанне карэспандэнта, калі ў апошні раз у кабінеце ваенкома быў хтосьці з бацькоў прызыўнікоў, палкоўнік Жураўскі адказвае коратка: — Штодня.

Адзін з апошніх выпадкаў, калі маці аднаго з прызыўнікоў прасіла аб адтэрміноўцы прызыву яе сына. Сям'я з двума дзецьмі жыве ў вёсцы. Прызыўнік – старэйшы з двух сыноў. Бацька хварэе. Маці тлумачыла просьбу тым, што у гэты нялёгкі для сям'і час яе старэйшы сын – апора ў сям'і. Яго заробак, калі ён не пойдзе на службу, будзе не апошняй капейкай ў сямейным бюджэце. Прызыўная камісія, у чыёй кампетэнцыі згодна з новым законам прыняцце рашэння па такой праблеме, будзе разглядаць гэты выпадак. Цяпер – слова за камісіяй.

Такіх праблем – мноства. І прызыўная камісія, у склад якой уваходзяць прадстаўнікі выканаўчай улады, ваеннага камісарыята, аховы здароўя, аддзела ўнутраных спраў абавязаныя гэтыя праблемы вырашаць.

—У хуткім часе, – гаворыць Аляксандр Жураўскі,– многія падобныя пытанні будуць зняты з увядзеннем інстытута службы ў рэзерве.

За 2–3 гады без адрыву ад вытворчасці для некаторых юнакоў будзе магчыма адслужыць сваё ў беларускай арміі. Гэта дапаможа, па меркаванні ваенкома, не толькі пры вырашэнні нейкіх сямейных праблем, але і тым, хто імкнецца да свайго прафесійнага росту па месцы пастаяннай работы "на грамадзянцы" і кім даражаць як спецыялістам на рабоце.

**Мікола ГАЙДУК.**



**Ваенны камісар Маладзечна і Маладзечанскага раёна палкоўнік Аляксандр Жураўскі нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Уселюб Навагрудскага раёна. У 1982 годзе скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут. Па грамадзянскай адукацыі інжынер ў галіне вылічальнай тэхнікі. Затым была служба ў Савецкай Арміі. У тым ліку на Далёкім Усходзе. Прайшоў перападрыхтоўку ў акадэміі імя Жукоўскага. Служыў у Заходняй групе войскаў, у Карэліі, Мурманскай вобласці. З 1993 года – у Беларусі. Скончыў Акадэмію кіравання. 5 год узначальваў Навагрудскі камісарыят. Сёлета пераведзены на пасаду ваеннага камісара Маладзечна і Маладзечанскага раёна.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Ваенныя званні

**Ва Узброеных Сілах Беларусі і іншых вайсковых фарміраваннях устанаўліваюцца наступныя саставы ваеннаслужачых і ваенныя званні.**

Перад воінскім званнем ваеннаслужачага, які праходзіць ваенную службу ў гвардзейскай воінскай часці, дадаецца слова "гвардыі".

Воінскае званне афіцэра, які мае ваенна–ўліковую спецыяльнасць і вышэйшую адукацыю юрыдычнага або медыцынскага (ветэрынарнага) профілю, дапаўняецца адпаведна словамі "юстыцыі" або "медыцынскай службы".

Воінскае званне рэзервіста дапаўняецца словам "рэзерву".

Воінскае званне грамадзяніна, які знаходзіцца ў запасе ці адстаўцы, дапаўняецца словамі "запасу" ці "ў адстаўцы".

**Артыкул «Састаў ваеннаслужачых і воінскія званні» Закона «Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе» ў новай рэдакцыі.**

| Састаў ваеннаслужачых | Ваенныя званні | |
|---|---|---|
| | ваенныя | карабельныя |
| Салдаты і матросы | радавы<br>яфрэйтар | матрос<br>старшы матрос |
| Сяржанты і старшыны | малодшы сяржант<br>сяржант<br>старшы сяржант<br>старшына | старшына 2-й стацці<br>старшына 1-й стацці<br>галоўны старшына<br>галоўны карабельны старшына |
| Прапаршчыкі і мічманы | прапаршчык<br>старшы прапаршчык | мічман<br>старшы мічман |
| Афіцэры<br>Малодшыя афіцэры | малодшы лейтэнат<br>лейтэнант<br>старшы лейтэнант<br>капітан | малодшы лейтэнат<br>лейтэнант<br>старшы лейтэнант<br>капітан-лейтэнант |
| Старшыя афіцэры | маёр<br>падпалкоўнік<br>палкоўнік | капітан 3-га рангу<br>капітан 2-га рангу<br>капітан 1-га рангу |
| Вышэйшыя афіцэры | генерал-маёр<br>генерал-лейтэнант<br>генерал-палкоўнік | |

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ ПРЫЗЫЎНІКОЎ

## Чаго чакаеце ад арміі?



**Сяргей Сокал:**

— Паляпшэння здароўя. Ад фізічных трэніровак я стану дужы і падрасту, хацелася б на 6 сантыметраў. Менавіта таму я хачу ісці ў армію. Хаця большасць хлопцаў жадання да службы не мае. Думаю, з-за таго, што ў арміі дрэнна кормяць.



**Аляксандр Калеснікаў:**

— Можа, каханне сваё сустрэну. Напрыклад, генеральскую дачку. Тады адразу жанюся. І жыццё пойдзе, як па масле.



**Святаслаў Вайцяховіч:**

— Нічога добрага. Таму служыць не хачу. Да таго ж у мяне ёсць работа. Мяркую, каб у арміі плацілі грошы, хаця б 100 тысяч, ахвотнікаў да службы было б больш.



**Сяргей Пашкоўскі:**

— Нічога. Я абыякава стаўлюся да службы ў арміі. Цяпер прыкладна 90% хлопцаў не хочуць служыць. Лепш працаваць. Я – токар, таму работа заўсёды ёсць.



**Павел Яцына:**

— Чакаю, што пасля арміі ўсе мяне будуць баяцца. Але спачатку я хачу вывучыцца, а потым – у армію. У акадэмію фізкультуры і спорту паступіць не атрымалася. Цяпер рыхтуюся да экзаменаў у індустрыяльна-педагагічны каледж.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

 

■ АДЗІН ДЗЕНЬ З ЖЫЦЦЯ ВЁСКІ

# Лебедзеўскія матывы

**На карце Маладзечанскага раёна сотні населеных пунктаў. І ў кожнага свой лёс, свая гісторыя, якую пішуць людзі, што тут жывуць. Не выключэнне і Лебедзева, вёска, пра адзін дзень з жыцця якой і будзе наш сённяшні расказ.**

Пабыць у населеным пункце з такой прыгожай назвай і не даведацца, адкуль бяруць пачатак яе карані, было б проста недаравальным. Таму, як толькі прыехалі ў Лебедзева, адразу ж зазірнулі ў мясцовую дзесяцігодку, дзе дзяўчаткі з гуртка "Спадчына" расказалі легенду, якую перадаюць у іх мястэчку з пакалення ў пакаленне.

## Што ў назве тваёй, вёска?

У далёкія часы на месцы Лебедзева размяшчалася вялікае возера. Людзі, што жылі на яго прыгожых берагах, лавілі ў возеры рыбу, палявалі ў чароце на качак, касілі на прыбярэжных лугах буйныя травы. Выцякала з возера рачулка Нявежа, глыбокая, паўнаводная, а на яе берагах сталі вёскі ды хутары. Называлася возера Лебедзева, таму што пасярэдзіне яго на востраве здаўна жылі лебедзі.

Самыя заядлыя паляўнічыя не чапалі гэтых птушак. Ведалі, што яны ахоўваюць возера, а таксама плаціну. Ды знайшоўся злы чалавек і застрэліў самага вялікага лебедзя – важака. Пакінулі лебедзі возера. А праз год ці праз два прагнілі, схаваныя ў чароце і пад вадой, лебядзіныя дамбы.

Спатрэбілася ўсяго тры дні, каб вада назаўсёды сплыла ў вялікую раку. Шмат было бяды, на берагах пазмывала хаты, знішчыла ўраджай.

Прайшоў час, людзі забыліся пра тую бяду і зноў пачалі сяліцца ў гэтых мясцінах. Спачатку вёску назвалі Лебедзева дно. Пазней, калі ніхто ўжо не памятаў пра возера, засталася толькі частка назвы – Лебедзева.

## Без мінулага няма будучыні

Дзякуючы стараннем **Насці Сімашкевіч**, **Яўгеніі Нядзелькі**, якія былі нашымі экскурсаводамі, і іх кіраўніку **Марыне Іосіфаўне Адамовіч**, якая кіруе гуртком "Спадчына", мы шмат даведаліся пра жыццё і побыт мясцовых жыхароў, убачылі калаўрот, на якім вясковыя жанкі пралі кудзелю, убачылі велізарны прас і сапраўдны "Тульскі самавар", які, як экспанат, захоўваецца ў школьным музеі.

Шмат расказалі дзеці і пра сваіх землякоў. Гісторыка, краязнаўцу і фалькларыста Генадзя Кахаnoўскага, а таксама вядомага ўсім Рамана Семашкевіча і Канстанціна Цыбульскага.


У вясковым магазіне бойка ідзе гандаль таварамі першай неабходнасці.

## Падрастаюць таленты

А пра лепшых вучняў Лебедзеўскай школы мы ўжо спыталі самі. Не без гонару расказалі настаўнікі пра ўдзельніцу экалагічных конкурсаў **Вольгу Шыцік**, спартсмена, кандыдата ў майстры спорту па грэка-рымскай барацьбе **Віктара Масленнікава**.

Асобным радком хочацца сказаць і пра вучаніцу 7 "А" класа **Ганну Адамовіч**. Дзяўчынку, якая стала пераможцай конкурсу "Мой родны кут, як ты мне мілы", які праходзіў пад эгідай згуртавання "Бацькаўшчына". А за верш "Ганаруся" яна была ўзнагароджана пуцёўкай у Балгарыю. А праз нейкі час яшчэ адна добрая вестка прыйшла ў школу. За матэрыял пра свайго земляка Рамана Семашкевіча, пляменніцай якога з'яўляецца, Аня была ўзнагароджана пуцёўкай у Чэхію.

Шмат творчых асоб і сярод настаўнікаў. Выкладчык працоўнага навучання **Надзея Іванаўна Емльяненка**, напрыклад, робіць рознага кшталту пано і карціны з прыроднага матэрыялу – ракавінак і марскога пяску. Зыходны матэрыял для іх прывозіць штогод з поўдня, куды ездзіць адпачываць. "Людзі фрукты вёдрамі вязуць, — расказвае настаўніца, — а я марскі пясок. Сёлета 7 кілаграмаў гэтага дабра ў школу даставіла. Будзе зыходны матэрыял для работы на цэлы год".

## Былі б грошы, а тавар знойдзецца

Здзівіў вясковы магазін. Разнастайнасцю тавараў і прадуктаў, за якімі стаяла чарга. Бралі вяскоўцы тое, без чаго не пражывеш: хлеб, муку, алей, макарону.

Настрой перамяніўся, калі ўбачылі ў руках фотаапарат. Адны лебедзеўцы выйшлі з чаргі, растлумачыўшы свой учынак тым, што апрануты не для фота, тыя, што засталіся, сталі ў ланцужок. Маўляў, трэба ж даць зарабіць журналістам на кавалак хлеба, якому цану ў гэтай вёсцы ведаюць добра.

## Не хлебам адзіным

А ў сельскім Доме культуры гэтым часам іграла музыка. Мясцовыя культработнікі праводзілі рэпетыцыю, рыхтаваліся да справаздачнага канцэрта. Пакуль загадчыца **Лідзія Гарохава** кіравала "парадам" на сцэне, харэограф **Людміла Камандуліс** і дыск-жакей **Уладзімір Радзько** заканчвалі фарбаваць сцены фае, наносячы на іх колеры лета: жоўты, блакітны, салатны. Дзякуючы новай гаме ў памяшканні не толькі святлела, але, здаецца, і цяплела.

"Рамонтныя работы, — гаворыць Лідзія Гарохава, — робім за кошт выручаных ад платных дыскатэк грошай. Фарбу купілі, а вось у ролі маляроў выступаем самі. Хочацца, каб Дом культуры адпавядаў сваёй назве і быў сапраўдным асяродкам культуры, на агеньчык якога спяшаўся б і стары, і малы".

## «Лебедзеўскія прытворшчыкі»

Ёсць у Лебедзеве і свае прытворшчыкі. Каб не ўводзіць чытача ў зман, скажу, што гэта далёка не тыя людзі, што сімулююць і не ходзяць на работу, прыкідваючыся хворымі. "Лебедзеўскія прытворшчыкі" – шоу-група эстраднай пародыі, якую ведаюць не толькі ў вёсцы, дзе яна "нарадзілася", але і далёка за яе межамі.

Людзі кажуць, што візітная картка гэтага калектыву – **Святлана і Аляксандр Грымаці**, якіх на сцэне ўдала дапаўняюць **Валерый Шумілаў**, **Таццяна Грачыха**, якая добра спявае, піша сцэнарыі. Не абыходзяцца канцэрты і без **Алы Ільіч**, **Алены Арлоўскай**, нязменнага акампаніятара **Ніны Руткоўскай**. Яны не толькі выступаюць на сцэне мясцовага Дома культуры, але і з задавальненнем выязджаюць у суседнія вёскі.

**Пастскрыптум.** Сённяшняе Лебедзева — гэта 444 двары і 1041 чалавек насельніцтва. І праваслаўныя, і каталікі жывуць тут у міры і згодзе, аднымі клопатамі і інтарэсамі. Вясной сеюць, летам косяць і жнуць, восенню дапамагаюць адзін аднаму ўбіраць з палёў бульбу і буракі. Не забываецца тут сусед суседа паклікаць на вяселле, выправы, радзіны. А здарыцца ў каго гора, ідуць без запрашэння. Каб падтрымаць маральна, а калі трэба, то й рублём. Гэтыя людзі ўмеюць як радавацца, так і спачуваць, быць вернымі ў дружбе. Нездарма ж іх вёска стаіць на месцы, дзе некалі жылі разумныя і гордыя птушкі – лебедзі.

Марына СЛІЖ.
Фота Сяргея МАЦЮШОВА.


Вучаніца 9 "Б" класа Лебедзеўскай СШ Насця Сімашкевіч праводзіць экскурсію ў школьным музеі.


Лебедзеўская царква ўражвае велічнасцю, прыгажосцю, дагледжанасцю.


Рамонт у Лебедзеўскім Доме культуры робіцца ўласнымі сіламі. Харэограф Людміла Камандуліс і дыск-жакей Уладзімір Радзько прыхарошваюць фае.


Настаўніца працоўнага навучання Лебедзеўскай СШ Надзея Емльяненка.


Людзі ў Лебедзеве давяраюць адно аднаму. На вясковай вуліцы можна ўбачыць не толькі незачыненую машыну, але і мяшок камбікорму, які чакае свайго гаспадара.


Помнік воінам-землякам, загінуўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны, устаноўлены ў цэнтры Лебедзева.

 



■ ФУТБОЛ, АНАЛІЗ

# Якога футбола мы дастойныя

**За апошнія сем гадоў найлепшым месцам маладзечанскага клуба стала дзесятае ў 2001-м годзе. Усе астатнія за гэты час выніковыя пазіцыі былі не вышэй трынаццатай.**

Лагічную рысу пад такой сумнай традыцыяй падвёў кіраўнік гарадскога спорту, загадчык аддзела па ФКСіТ Мікалай Шрымф.

— Я даўно схіляюся да думкі, што нам нявaрта з апошніх сілаў трымацца за вышэйшую лігу, бо ўсё роўна там мы можам толькі змагацца за выжыванне. Футбол як сацыяльная з'ява ў горадзе застанецца. Думаю, нават болей балельшчыкаў пачне прыходзіць на стадыён, калі каманда стане часцей выйграваць у першай лізе. Цяпер у нас няма сродкаў на добрых футбалістаў. Калі ж з'явяцца належныя ўмовы, тады зноў выйдзем у вышэйшую лігу.

Гэтыя належныя ўмовы якраз былі ў наяўнасці ў 2000-м і 2001-м гадах пры фінансаванні клуба сталічнымі бізнесмэнамі. Жыццё даказвае, што горад Маладзечна з эканамічнага пункту гледжання не можа самастойна ўтрымліваць каманду хаця б узроўню сераднячка вышэйшай лігі.

Калі правесці аналіз усяго складу вышэйшай лігі, то зразумелую перавагу перад Маладзечнам маюць абласныя гарады, а таксама тыя райцэнтры, дзе ёсць буйныя прадпрыемствы (Салігорск, Наваполацк, Бабруйск, Мазыр). Пры гэтым не надта відавочна, чаму мы аказался ў табліцы ніжэй за "Зорку-ВА-БДУ" і "Дарыду". Магчыма, яны маюць нейкіх высокіх апекуноў. Да таго ж не паспелі сталіцца ад аўтсайдэрскай долі.

У прыведзеным спісе райцэнтраў не хапае дзвюх кропак на футбольнай карце вышэйшай лігі. Разгледзім іх асобна.

Жодзінскае "Тарпеда" прайшло па сцежцы, пракладзенай у нас два гады таму. Там ужо таксама скончыліся грошы, якія далі заможныя бізнесмэны.

Барысаўскі БАТЭ – гэта нагогул унікальная з'ява ў футбольным жыцці краіны дзякуючы свайму фундатару Анатолю Капскаму. Безумоўна, у Маладзечне моцны футбол будзе толькі тады, калі з'явіцца падобны чалавек. Думаецца, ён павінен адпавядаць, па меншай меры, тром асноўным характарыстыкам адначасова: а) сапраўднай любові да футбола; б) звышжаданню праявіць сябе як чалавекам, які "состоялся" па вялікім рахунку; в) значнаму бізнес-таленту.



Калі зноў у Маладзечне сустрэнуцца каманды вышэйшай лігі? Фота з сайта www.fcmolodechno2000.com

### Кадравая сітуацыя

Асэнсаваўшы памылку з зімовым запрашэннем Вячаслава Акшаева і Алега Французава, гарадскія ўлады пачалі ствараць каманду, абапіраючыся на мясцовых футбалістаў і трэнераў, што даўно напрошваліся.

Праблемы другога круга ўзялі на сябе людзі без досведу працы на такім узроўні. Гэта галоўны трэнер Руслан Лукін, выконваючы абавязкі генеральнага дырэктара Пётр Кухальскі, начальнік каманды Ахад Сахбатаў. Мінулыя чатыры месяцы не прынеслі ім маральных дывідэндаў.

Асноўнай фігурай жыццядзейнасці каманды з'яўляецца галоўны трэнер. Мікалай Шрымф паведаміў, што Руслан Лукін застанецца на сваёй пасадзе.

Зараз наўрад ці мае сэнс шырокае інтэрв'ю з настаўнікам, які сам добра разумее, што склалася сітуацыя, калі лепш працаваць, чым гаварыць. Да прыкладу, у пасляматчавых каментарыях на пачатку сваёй дзейнасці ён упэўнена сцвярджаў, што каманда будзе прыбаўляць у гульні, і яе лепшыя матчы яшчэ наперадзе. Атрымалася ж зусім не так.

Што тычыцца безумоўна цікавай для чытачоў ацэнкі трэнерам сваіх падапечных, то Руслан Лукін застаўся задаволены дзеяннямі перспектыўнага нападаючага Хамутоўскага, самаадданага паўабаронцы Вышынскага, надзейных абаронцы Дразда і варатара Жылкіна. Тых футбалістаў, што яго расчаравалі, па этычных меркаваннях, называць не стаў, за выключэннем толькі нападаючага Лабанава.

### Статыстыка па гульцах

Сёлета ў чэмпіянаце ў складзе "Маладзечна-2000" гулялі і забівалі наступныя футбалісты.

Матчы: Лявончык – 27; А.Альховік – 25; Дараховіч – 23; Дрозд – 19; Крывіцкі, Сцепановіч (-25) – па 16; Вышынскі, Косак, Кухлей, Пазняк, Якубоўскі – па 15; М.Альхавік, Урублеўскі, Якімчук – па 14; Макрыцкі, Сідарэнка, Сысой, Хамутоўскі – па 13; Афанасевіч, Веташкін, Кабельскі, Кадол – па 11; Лабанаў, Маляўка – па 10; Жылкін (-13) – 8; Ганчароў, Міхайлаў (-14), Мятліцкі – па 7; Пятроўскі – 5; Ляпета, Ярмоленка – па 4; Лабжанідзе, Тураў – па 3; Галенка, Касцюк, Савіцкі – па 2; Татун – 1.

Галы: М.Альхавік – 4; Лявончык, Макрыцкі, Хамутоўскі – па 3; Лабанаў – 2; Дараховіч, Кухлей, Урублеўскі, Якімчук – па 1.

За ўсе гады выступленняў у вышэйшай лізе (1992-1999, 2001-2003) за каманду згулялі 163 футбалісты, забівалі з іх – 70.

У ніжэйпрыведзеным спісе названы тыя гульцы складу другога круга, што правялі больш за 40 матчаў, а таксама Макрыцкі і тройка лепшых.

Казяк – 183; Лебедзеў – 174; Клімовіч – 166; Макрыцкі – 77 (11 месца ў агульным спісе); Дараховіч – 66 (дзяліць 15-16 месцы); Вышынскі – 53 (23-26 месцы); Лявончык – 45 (31 месца); Сцепановіч – 42 (32-33 месцы); Дрозд – 41 (34-35 месцы).

Мінулы чэмпіянат унёс невялікія змены ў сямёрку лепшых бамбардзіраў.

Вяжэвіч – 40; Казяк – 32; Лукін, Акуліч – па 15; Лабанаў – 13; У.Макоўскі – 11; Макрыцкі – 9.

**Выніковая табліца чэмпіянату вышэйшай лігі.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Гомель | 0:1 | 0:0 | 23 | 5 | 2 | 56-12 | 74 |
| 2. | БАТЭ | 1:4 | 2:3 | 20 | 6 | 4 | 70-21 | 66 |
| 3. | Дынама (М) | 0:2 | 0:4 | 20 | 4 | 6 | 62-24 | 64 |
| 4. | Тарпеда-СКА | 0:3 | 1:2 | 19 | 7 | 4 | 54-20 | 64 |
| 5. | Шахцёр | 0:3 | 0:1 | 19 | 7 | 4 | 60-23 | 64 |
| 6. | Тарпеда (Ж) | 0:2 | 0:3 | 13 | 10 | 7 | 44-25 | 49 |
| 7. | Нёман | 0:1 | 1:3 | 10 | 9 | 11 | 24-35 | 39 |
| 8. | Нафтан | 1:2 | 0:2 | 10 | 5 | 15 | 39-49 | 35 |
| 9. | Днепр-Трансм. | 0:2 | 2:2 | 8 | 10 | 12 | 38-46 | 34 |
| 10. | Белшына | 1:0 | 0:2 | 8 | 8 | 14 | 44-50 | 32 |
| 11. | Дынама (Б) | 1:2 | 0:0 | 5 | 12 | 13 | 21-49 | 27 |
| 12. | Зорка-ВА-БДУ | 1:1 | 5:1 | 7 | 4 | 19 | 23-64 | 25 |
| 13. | Дарыда | 1:1 | 0:2 | 7 | 4 | 19 | 22-45 | 25 |
| 14. | Славія | 2:1 | 0:2 | 6 | 7 | 17 | 29-64 | 25 |
| 15. | Лакаматыў (М) | 0:0 | 0:0 | 5 | 9 | 16 | 16-42 | 24 |
| 16. | Маладз.-2000 | ##### | | 3 | 7 | 20 | 19-52 | 16 |

### Былыя футбалісты каманды

На працягу сёлетняга чэмпіянату ў складах каманд вышэйшай лігі гуляў 21 футбаліст з тых, што раней мелі дачыненне да маладзечанскага клуба. Праз год іх павялічыцца ледзь ці не да трыццаці за кошт складу МТЗ-РІПА (які, дарэчы, саступіў 1:2 віцэбчанам у залатым матчы першай лігі).

Можна ганарыцца тым, што палова гульцоў сёлетняга спісу – дзесяць, у тым ліку пяцёра карэнных маладзечанцаў – выступала за каманды мацнейшай пяцёркі чэмпіянату. Гэта Фёдар Лукашэнка (за маладзечанскі клуб правёў 115 матчаў у 1992-1996 гадах) з "Гомеля", Дзмітрый Молаш (8, 1999) з БАТЭ, Уладзімір Макоўскі (47, 1993-95), Міхаіл Макоўскі (38, 1993-95) і Андрэй Мілеўскі (гуляў за "Электрамодуль", ДЗ, 1993) з мінскага "Дынама", Дзмітрый Падрэз (25, 1995-1996) з "Шахцёра", Аляксандр Вяжэвіч (114, 1992-96), Віталь Макрыцкі (77, 1998-2003), Віталь Міхалёў (66, 1998-2002) і Дзмітрый Чалей (24, 1997) з "Тарпеда-СКА".

Бамбардзіры: Блізнюк (Гомель), Карніленка (мінскае "Дынама") – па 18; Ціханчык (Шахцёр) – 17.

Адразу пасля назваў каманд даюцца вынікі матчаў "Маладзечна-2000" супраць іх (спачатку – дамашнія, потым – на выездзе).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ БАСКЕТБОЛ

## Чаргговы сезон

**СМАРГОНЬ. У традыцыйных спаборніцтвах дзіцячай баскетбольнай лігі сёлета з нашага рэгіёну бяруць удзел толькі прадстаўнікі смаргонскай СДЮШАР (дырэктар Валерый Юрчанка). У бой адпраўлены тры калектывы. Усе яны ўжо стартавалі ў турніры.**

З хлопцамі 1989 і 1990 г.н. працуе трэнер Вольга Савоська. У абодвух узростах сабралася па 12 каманд. Яны згуляюць паміж сабой у адзін круг, а потым падзеляцца на фінальныя пулькі, дзе стануць аспрэчваць 1-4, 5-8 і 9-12 месцы. Малодшыя напрыканцы кастрычніка ездзілі ў Гродна. Атрымалі дзве перамогі над СДЮШАР-7 (Гродна) і ДЮСШ (Светлагорск) і адно паражэнне ад БМЗ (Жлобін). Старэйшыя 11-13 лістапада гулялі на дамашнім туры. Атрымалі адну перамогу над СДЮШАР-10-ІІ (Мінск) і два паражэнні ад СДЮШАР-10-І і СДЮШАР-7.

Дзяўчаты 1989 г.н. пад кіраўніцтвам Жанны Грэхавай летась перамаглі ў сваім узросце, што называецца, без варыянтаў. Праўда, тады ўдзельнічалі ўсяго чатыры каманды – сёлета ж заявілася дзесяць. Пасля аднакругавога турніру іх чакаюць фінальныя выпрабаванні за 1-4 і 5-8 месцы.

На пачатку лістапада ў Гродне нашы зямлячкі выйгралі тры матчы ў СДЮШАР-7-ІІ, ДЮКФП (Бабруйск) і ДЮСШ-2 (Масты), прайгралі адну сустрэчу СДЮШАР-7-І.

■ БАРАЦЬБА ДЗЮДО

## Бронзавы набор

**Чэмпіянат краіны сабраў мацнейшых барцоў 14-16 лістапада ў Мінску. Прадстаўнікі рэгіёну прывезлі тры бронзавыя ўзнагароды.**

Аляксандр Марудаў (трэнер Канстанцін Кушнер) са Смаргоні ў вагавай катэгорыі да 60 кг правёў чатыры схваткі, выканаў нарматыў майстара спорту. Ён 1984 г.н., вучыцца ў сталічнай Акадэміі МУС.

Вольга Пашкевіч (трэнер Сяргей Шышкоў) са Смаргоні ў катэгорыі да 70 кг правяла тры схваткі. Яна 1986 г.н., вучыцца ў гродзенскім ВАРы.

Антон Заянчкоўскі (трэнер Вячаслаў Дзеравянка) з Маладзечна ў катэгорыі звыш 100 кг правёў чатыры схваткі. Ён 1984 г.н., вучыцца ў родным горадзе ў філіяле сталічнага інстытута кіравання і прадпрымальніцтва.

Смаргонцы Юрый Шайко (66 кг) і Андрэй Кіпцэвіч (81 кг) занялі пятыя месцы, а маладзечанец Артур Халадзінскі (+100 кг) увайшоў у васьмёрку лепшых.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ КОННЫ СПОРТ

**МАЛАДЗЕЧНА. Каманда раённай ДЮСШ (базіруецца ў Палачанах) выступала на спартакіядзе (для ўдзельнікаў 1989 г.н.) спартыўных школ у Гомелі. З шасці калектываў былі другімі па выніках, саступілі толькі гаспадарам.**

У складзе ездзілі трое выхаванцаў: Святлана Рубан, Уладзімір Захараў і Сяргей Казлоў. Найлепш выступіла Святлана, заняўшы другое месца ў асабістым заліку. Трэнеры юных спартсменаў Уладзімір Пятроў і Наталля Шаліма.

■ СКАЧКІ НА БАТУЦЕ

**ВІЛЕЙКА. Выхаванцы мясцовай ДЮСШ ездзілі ў Віцебск на Алімпійскія дні моладзі 1986 г.н. і меншых.**

Каманда дзяўчат выступіла лепш за хлопцаў, заняўшы чацвёртае месца сярод сямі калектываў. У спаборніцтвах добра сябе праявілі Яўген Баравой, Радыён Зубчонак і Надзея Сіняўская. Іх трэнеры Пётр Зайцаў і Ірына Нехвядовіч.

■ ФУТБОЛ, ЮНАКІ

**МАЛАДЗЕЧНА. Выхаванцы маладзечанскай ДЮСШ 1988 г.н. пад кіраўніцтвам Анатоля Ішчанкі выступілі ў кубкавым турніры па праграме ліцэнзавання клубаў вышэйшай лігі.**

У барацьбе з аднагодкамі маладзечанцы перамаглі ў 1/8 фіналу "Лакаматыў" 1:0 дома і ў 1/4 фіналу – "Зорку-ВА-БДУ" 2:1 дома. Потым крыўдна саступілі ў паўфінале "Тарпеда-СКА" 0:2 на выездзе, маючы гульнявую перавагу па ходзе сустрэчы.

У складзе вылучыліся Яўген Каравулаў (Радашкавіцкая СШ), Сяргей Косціч (СШ№8), Аляксей Семашкевіч (СШ№2).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

 

